Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

№ 11 (31) — ЛІСТАПАДА 1928 г. — № 11 (31)



ЦАГЕЛЬНЯ
Шчыткоўскага камітэту ўзаемадапамогі, Бабруйскае акругі.

## Новы вецер

Вяч. Станкевіч

ляджу сягоньня праз сваё вакно:
Хістае вецер сонную антэну,
вечар сіні... ціхі... в туманом
Упаў на росныя, няўтомныя калені.
Упаў з-за хмары месяц залаты
Сьвятлом павіснуў ў высокай браме.
Двесь б'ецца вецер грудзьмі ў чорны тын,
Пяе жыцьцю ўскудлачанаю гамай.

Цьвіце прастор. Цьвіце далячыня.
Красуе радасьць ў маладым запале.
Гаі кашлатыя шумяць... шумяць.
Штось хочуць выпеяць вяком на памяць.

І вецер прыгажосьцю новых нот
Хістае над чытальняю антэну,
А я і сам, як вечар за вакном,
Упаў красе сягоньня на калені.

# Трахім з Пагулянкі

### ЛУКАШ КАЛЮГА

Трахім толькі дзеля прыклёпу бывае што пытае, зайшоўшы ў хату.

— А дзе-ж вашы болей? Дзе-ж мужчыны?

Яму ўсё-роўна, хто-б там ні быў у хаце: мужчыны ці жонкі. Абы было з кім забавіцца. Ня хоча слухаць Трахім жаночага адказу. Прыслухаўся ўжо ён. Аднакія словы—як бы заучылі ў кожнай хаце.

— Хто іх ведае! Недзе сышлі з дому.

Трахім дастане з-за пазухі капшук з тытуном. Начэрпае карашкоў паўнюсеньку люльку ды, нікому нічога ня кажучы, пойдзе к ямцы прыкурыць. Там лучынкаю, ці так трэскаю якою разгорне жар, на бок адкоціць адзін, каторы спрытнейшы, вугольчык. Голымі рукамі возьме яго і паложыць у люльку. Пэхкае і маўчыць. Калі-ж у каторай гаспадыні жар у ямку ня выграбены, тады Трахім хваліць даўнейшы сьвет. Такая то-бо тады выгада была. Ніколі свой агонь дома ня зводзіўся і на запалкі ня трэ' было траціцца. Выпаліць сабе гаспадыня печ. Выгарне жар у ямку. Зьверху яго попелам засыпле, каб не разгараўся. Так ён і тлее памаленьку, пакуль назаўтрае не раздьмухае, лучынак не запаліць, каб дрэва імі падпаліць. Толькі й помніць Трахім, што даўней у іх хаце ўсяго адзін раз з гасьцей позна ўначы прыехалі ды заспалі траха не да паўдня, —усяго тады й давялося бегчы са збаночкам к суседзям жару пазычыць.

Запалкі Трахім кашчэнт згапіў.

— Прыцісьні,—кажа,—яе добра каторую, дык і паляціць на дзьве палавінкі. Цярплівосьці трэба, пакуль ёю што падпаліш. От вугольчык! Ад таго ўраз полам'ем хваціць. Хуць пападзьмухваеш, калі ня спрыцею, але-ж потым затое цацкацца ня трэба.

Гэта ў некага ломяцца запалкі, а не ў Трахіма. Яму дадуць карабок, дык спаважня дастане, шмаргане, ціханька прыкурыць. Ён заўважыў, адкуль бралі—цяпер сам на сваё месца паложыць карабок.

А тое Трахімава пытаньне было толькі прычапка, каб гаворку пачаць, у хату зайшоўшы.

Няма чаго яму дома рабіць. Ужо ўсеяўся. Картоплю пакапаў. Зазябліў на зіму свой няшырокі шнурок. З малацьбою ён ня падта хоча другіх людзей выперадзіць. Абабіў цэпам капы са тры сяго-таго, каб на месяц стала на свой абыходак. А болей куды там сьпяшацца? Не ўцячэ работа. Пакуль тая вясна прыдзе ды старану трэ' будзе спаражніць. Прачакаешся 'шчэ. Толькі й клопату ў старога, каб дзе забавіцца.

Надоечы з раніцы лёг зазімак. Зьмяшаўся з гразёю. Яе крыху пабяліў і сам укуцаўся. Пад вечар 'шчэ больш падкінула сьнегу. Сьцежка стала цяпер белая, мяккая. Не націкае ваду ў Трахімавы лапці. (У яго ёсьць боты толькі на кірмаш хадзіць). І ад гразі цяпер — асьвяціся.

Узыйдзе сабе Трахім к каму на ганак. Стукне адною да другою нагою разы два і ад сьнегу мала чаго знаку астаецца. Выгада! Усё ня так людзі крывяцца, як у хату зойдзе.

З канца ў канец ходзіць ён па хатах, як саб'ецца з пільнай работы. Ад адных што пачуе. У другой хаце сам раскажа навін. Як доўга ні говорыць, але другі раз таго самага ад яго не пачуеш у адзін дзень.

Уночы прасьпіцца. Шмат чаго забудзецца. Назаўтрае ізноў гатоў з таго самага канца сваю мову пачаць. Слухаеш і не здагадаешся, што ўчарашняя навіна

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Накла... 15.000

магла гэтакаю быць. Што праўда, а што даложана, і не падумаецца шукаць. У Трахіма ўсякае здарэньне, што раз блутаецца, больш хітрым робіцца, харашэе. Яго паслухаць—лепш, як самому на тое дзіва паглядзець.

Валачашчай натуры гэты чалавек. Некалі шаўцом быў. Па людзях з калейкі хадзіў. А цяперашняму сьвету нешта не ўпадабаўся. Кажуць—ніякай хормы ў яго боце няма: на цэгліну роблены. Выйдзі ў людзі ў такім абутку, дык засьмяюць, усе будуць на твае ногі ўглядацца. А што мацунак умеў Трахім даць сваёй рабоце, дык за гэта й цяпер яго старыя хваляць і маладыя не сьмяюцца.

Як ня сталі яму людзі работы даваць, дык ад тых дат прыстанішча дома ня мае. Усё на сяло валачэцца. Бывае, абыйдзе ў вёсцы ўсе хаты, з кім у злагадзе жыве, ды й вернецца на сваю Пагулянку 1), дзе адны дзесяцінькікі жывуць. Стане на сьцежцы проці свае хаты, што ад хаты на дарогу выходзіць. Зірне ў адзін канец Пагулянкі, зірне ў другі. На свой двор і на сваё гумно гляне. От так пастаіць, паглядзіць. Задзярэ ўверх галаву—сонца ўжо пад паўдня бярэцца. 'Шчэ раз на вёску азірнецца ды памаленьку й пойдзе к каму на Пагулянку. Тут суседзкая справа. Так і паміне свой дом.

Другі, як саб'ецца з пільнай работы, будзе ток падмятаць, раўнаваць гной у загарадах. Ды ці мала можна работы знайсьці нязробленай, калі добра пашукаць. Некаторыя жыць без яе ня могуць. Самі робяць і другім раяць. Кажуць: ратунак ад шкодных думак людзям работа дае. Гэты самы Трахім гаворыць, што знаў на засьценку аднаго сьмешнага шляхціца.

Перад вайною гэта было. Тады ніхто 'шчэ ня знаў прафсаюзаў і абрэзкі. Меў сабе шляхціц тады пяць валок зямлі. Трымаў парабкоў і дзьве наймічкі. Ды надта-ж ён баяўся, каб служобныя лішне ня думалі. Усё так меркаваў, каб у іх часу ня было на гэты занятак.

«Што-ж?—сабе думаў.—Будзе часпачнуць думаць: надумаюцца красьці. Тады сьцеражыся. Прымай з пад іх рук усё, што валяецца на пашэве, альбо вартаўніка наймай на іх. Наймі вартаўніка —яны красьці пабаяцца. Як ні памкнецца ніводзін, каб украсьці, дык вартаўніку ўжо ня будзе чаго рабіць. Сам ён стане думаць і да таго самага перакапаньня гатоў дайсьці. 'Шчэ лепей!»

Усё хадзіў шляхціц за наймітамі ды загадваў:

— Пабяжы ты тое зрабі!

— Чаго расьсеўся, як капуста ў гародзе? Вазьмі онь гэта сюды паднясі!

А бывае й так, што ніяк не дадумаецца, каб у кожнага з іх была свая работа ў руках. Тады адвернецца на хвілінку. Сходзіць на дрывотню. Абурыць касьцёр дроў. От аднаму ўжо й занятак на ўвесь дзень.

— Ды глядзі-ж,—кажа,—каб на сонцы другі канец быў, а ня той, што ўжо добра парудзеў і дагэтуль. Тады гараць лепш, як роўна з усіх канцоў усыхаюць.

Гэтага шляхціца любіць Трахім успамінаць, калі хто перад ім бедаваць вельмі стане, што работы многа, ці выхвалацца пачне, які сам дасужы.

Плюне тады Трахім. Люльку ў зубах паправіць.

Гэта,—кажа,—дрэнь! От дзе быў чалавек працавіты, любіў работу.

Калі-ж сам па сабе ўпляцецца ў гаворку гэны шляхціц ды ў гуморы будзе наш стары,—сьмяецца тады расказуючы:

— Вар'яцеўся чалавек.

Сам ён блізка ля шляхціца не стаяў. У яго работа трэба, каб кіпела ў руках. Сюды-туды павярнуўся: дзе граблямі сьцягнуў, а дзе вілкамі закінуў, рукамі

1) Пагулянкаю ў нас завуць невялічкі засьценачак каля вёскі, калі ўсе будынкі ў ім пастаўлены з аднаго боку вуліцы, а не абапал.

падаткнуў—гатова! Калі месьці, дык з усяго плячa. Калі падграбаць, дык з большага. Ня любіць Трахім надта кешкацца з работаю, цацкацца з усякаю драбязою, калі й без яе ўрон у гаспадарцы невялікі. Калі-ж гэтак трэба што рабіць, дык—зарэз! Яму абы барзьдзей з рук работу, а з галавы клопат збыць. Тады волен сьвет чалавеку. Зьняў сабе па сьцяне з крука свой зашмальцованы ў падоле палатаны кажух. Апрануўся ў рукавы, крысься захінуў, прыпёрся жыватом дзе да ложка ці да стала—падперазаўся ды й на любы сьвет ідзі сабе вочы прахаладаць.

У памяць тутэйшым людзям Трахімаў кажух. Зіму-лета ня сыходзіць ён у яго з плячэй. Ад трох мэтраў у год ня надта напаліш хату. Ня так ужо ў ёй, каб зубы ляскалі, але пара відаць, як хукнеш. Людзі, бывае, і падборкі прыстараюцца, ды й то ў хацеваўкоў ганяць ільга, дык што гаварыць пра Трахіма—ён з падборкаю ня знаецца. Затое ў іх хаце ніводзін селянін не распратваецца. Бывае, як залянуецца Трахім на сяло йсьці, дык на ложак, падперазаны сырамятнаю папружкаю, што некалі паскам звалася й каня ёю падпіналі,—у чым стаяў, у тым і кладзецца. Задрамаць яму захацелася, ці то так на баку паляжаць, заплюшчыўшы вочы—пацешыць свае старыя косьці.

Якому чалавеку, дык Трафімаў кажух быў-бы толькі па калены, а то й вышай, а яму самому—шчупленькаму, нізенькаму, крыху сівенькаму чалавечку—па самыя костачкі займае. Цераз гразь ідзе—крысься ўгору падымае, каб не замачыць.

Яшчэ вось па чом Трахіма пазнаць ільга: ніколі ён верхніх штаноў і кашулі ня носіць, як цёпла. Толькі сыйдзе сьнег і аж покуль мароз зямлю не пачне сьціскаць—ён у ісподнім ходзіць. Ды й чаго там надта строіцца—усё адно з пад кажуха ня відаць. Скідае-ж ён яго толькі, як косіць ці завіхаецца сена ў копы ставіць перад дажджом. Тады ў белым лепш, як так у якім—халадок. І ня надта цяжка Трахіму гэтакая зімовая апранаха. Ужо выцерлася (каторы год носіцца!), дык як пярцо ляжыць на плячах.

Зімы толькі Трахім баіцца. Тады не абы якія шарачковыя штаны, а порткі суконныя адзяе, а на плечы—куртку на кудзелі ўзьдзябурыць. Цёпла й добра! 'Шчэ кажух наверх апране, дык зусім як на печы.

За адно толькі дрэнны ён чалавек, што кожан дзень у яго новае на языку. Памяць курыная: забываецца, што й як учора гаварыў. Але хай сабе й з цэбар будзе галава, ды й то ўсяго ня спомніць, што ён за адзін толькі вечар намеле языком. Барзьдзей збрыдае слухаць каму, хто не паспаў, можа, ночы са дзьве, як Трахіму дадзене гаварыць.

Аж злосею я на яго за такую няспраўную памяць. Разоў са тры прабаваў угаварыць, што брыдка рабіць гэтак, што людзі ўсё-роўна запамецяць ды сьмяяцца будуць.

— А вы-ж у суботу зусім іначай гэта самае казалі,—выкіну, бывае, яму на вока.

Думаецца, што направіцца чалавек ад гэтага, будзе ў адно слова патрапляць гаварыць. Але дзе там! І слухаць ня хоча маіх парадаў. Крыўдуе. Раптам суніме сваю мову. Насупіцца.

— Дык раскажы сам, калі лгуна знашоў!

От я ўжо й папаўся ў бэту. Маўчу сьціхатою. Добра 'шчэ, што ўсяго на адну хвілінку спракудзіцца Трахім, а далей не бярэ ўвагі на мае глупасныя словы.

А сама лепш яго ўлавіць, калі распачне гаворку пра сала й млека—што з іх лепей нашаму вясковаму чалавеку. Тут ужо ўсякі дурань розьніцу запамеціць, калі толькі два разы чуў гэту мову—узімку і ўлетку. Можа загэтым і кажуць у нас:

— Ілгун ты! Трахім з Пагулянкі!

Галоўлітбел № 25251. Надрукав. 15.000

Гэта-ж пад весну стануць у людзей каровы цяліцца. А «чарна» Трахімава ўсё значыць. Ня помніць ён добра, калі жонка яе к бугаю вадзіла, дык і тэрміну ня можа сказаць.

Нагледзіцца ён, па сяле ходзячы, як малодзіва міску каторыя дастануць з печы. Паставяць яе на стол. Пара з яе аж да столю слупам верне. А яны ўспадуць на міску ўсёю сям'ёю. Хваліць ня хваляць лоўчы, але па тым, як іх раты ходзяць, здагадуецца Трахім, што смачная гэта ежа. Ды ці толькі адно малодзіва й ядуць людзі?! Гэтак сама добра, калі ў сьняданьню й юшка забеленая гатова. Ды й так, кварту млека наліўшы, добра з хлебам зьесьці.

Нагледзіцца Трахім на людзей ды давай іх выгаду ганіць. Млека й на сабаку ня варт у яго.

— Ніякага,—кажа,—наядку няма. Усё адно, што вада. Напіўся—троху пачакаўшы, выбегла яно з цябе, ды йзноў даліваў. Ані ня трывалае: ня тое, што сала. Нябось, касы аб млеку не пацягнеш.

Хто першы раз чуе, дык і падумае: «Праўда».

З месяц пачакаўшы, ацеліцца Трахімава «чарна». А зараз згоніць сьнег. Пачне падсыхаць зямля. Выйдуць людзі на поле. І Трахім усьлед за імі. Ад ранку да зьмроку, калі папаходжуе за барапою—вымерхаецца добра. Другі-б цяпер скварку як мага тлусьцейшую, ў кулак згробшы, апетаваў-бы, а ён—не, яму й ня хочацца. Гуляшчы кубелец цяпер у Трахіма ў каморы стаіць—і толькі бяды! Зусім малую цану Трахім салу ў зубу дае.

— Я яго,—кажа,—не ўважаю. Каб хаця любовае, а то тлустасьць адна. Ясі яго, а назад з цябе верне, як здыхліна якая. Капусту ці картоплю—смажанку ім затаўчы 'шчэ як-ось-як, а каб адно яго з хлебам церці, дык я (дальбог!) гатоў казлы пацраць.

І гэтак у яго мова зьмяняецца штогоду ў адну пару. Дык дзіва, што лгуном завуць?!

А так варта Трахіма паслухаць. Усякіх людзей ведае ён: і паноў, і цыганоў, і шляхтаў, і так сабе майстроў усякіх, усіх гаспадароў на паўмілі кругом у сваёй ваколіцы. Мабыць, як шаўцом яго звалі ды езьдзіў шыць з калейкі, тады многа чаго пагледзеўся ды й дагэтуль яшчэ не забыўся ўсяго. Усякім спосабам яго знаёмыя цяпер на зьвяглівым языку выкручуюцца. Дзіўнымі выходзяць—людзям напаказ.

А гора якое на Трахіма ўспадзе ці засмуціцца па чым дужа. Тады ўсё ў яго кепска. Увесь сьвет у яго выходзіць, што на глупстве стаіць. Паслухаеш Трахіма. Падумаеш.

«Такі-ж праўда».

Тады Трахім ані люлькі з зубоў ня пушчае. Сваёй работы яна ў яго, з крывога вішнёвага суку выкручана. І цыбук суцэльны з люлькаю, у кузьні жыгалам прапечаны. Папяросаў Трахім не ўважае. Часу, кажа, многа на іх ідзе—пакуль ты яе скруціш. Ды й папера дорага, каб купіць. Газэты і так бы расстараўся, але сьмярдзіць у ёй. А з люлькаю хутка: выгарэла ўсё дык попел аб погаць выбіў, новага падсыпаў тытуну ды йзноў пэхкай сабе. 'Шчэ наш стары як у горы, дык на адным месцы ня ўстоіць, гаворачы. Усё бліжай да таго, хто слухае, падыходзіць. 'Маль ні за кожным словам вымае люльку з зубоў і плёвае на падлогу, як пляўмелы курэц. Так што, пасьля яго, бяры венік ды расьцірай па хаце харкачы, каб ня гразка было. А яму самому ад такой гаворкі лягчэй на сэрцы робіцца.

Весел сам—тады ўсё хваліць. Паслухаеш яго і здаецца добрыя, толькі што крыху сьмешныя людзі на сьвеце жывуць. Пасьмяешся з іх з Трахімам разам.

«Праўду кажа»—сабе думаеш.

Ці то біду ці вясёласьць—усё Трахім на людзі нясе. К усякаму з сваім горам чэпіцца: хоча той слухаць ці не.

А самая большая прычына яго смутку і радасьці—печ, што добра не напальваецца. Многа ў ёй гаршкоў, ды 'шчэ калі ў іх гусьцей скалкі плаваюць—спакайней на душы. Мала—тады й галава ад засмучоных думак сьвярбіць і кашуля кусаецца ды й язык гатоў ляпнуць чорт ведама што, добра не падумаўшы.

Вось чаму бывае неразьбяры-бяры з гэтым чалавекам.

Я й сам люблю паслухаць гаворкіх людзей, а з Трахімам сварыўся-б, здаецца. Злосны я на яго. Як гэта можна ў вадно слова два разы сказаць не патрапіць?

'Шчэ й жыць на сьвеце Трахім ані ня ўмее. Ня так, як другія сквапныя людзі.

У нямецкую вайну ўзялі былі й яго ў запас. Стаяў перш у Уладзімерскай губэрні. А як цара скінулі—у Віцебск перагналі. Дасьціпныя людзі шынэлі тады цягалі, гунькі, гімнасьцёркі, таўстыя чаравікі. Трахім жа, як стаіць, дамоў вярнуўся. Сьмяюцца, накпіваюць з яго людзі—накпіла й машына: на дзьве станцыі не давезла. Нешта ёй зрабілася—стала й ні з месца. Мусіў Трахім злазіць ды пяхотам джгаць больш, як пяцьдзесят вёрст. Гэта добра, што дадому, а каб з дому—хто яго-б зайшоў гэтак далёка. Пасьля таго толькі аднаго разу ў абоз зьезьдзіў аж пад самую Буг-раку, а больш нідзе ня быў, апроч свае Пагулянкі ды нашай вёскі, што помежня з ёю. Ну, бывае, у мястэчка да торгу зьезьдзіць, альбо ў млын, ці зімою ў лес. А з таго часу, як на сьвеце пабыў, ён яшчэ больш ілгаць, ці то многа праўды гладзей казаць, налажыўся.

Але патом боязна Трахіма ілгуном абзываць. 'Шчэ вочы чалавек захаркае за такую зьнявагу, як дачуецца.

# У шырокі сьвет

С. Купеш

За вокнамі вечар, за вокнамі восень;
А на небе зоры ткуць узор.
Прабягае поле, прабягае вёска
І за ёю родны цёмны бор.

Стукаюць калёсы, скрыгаюць аб рэйкі,
А, здаецца, цэпам б'юць аб ток...
Мілая ты вёска, родная матуля,
Дай вірну ў растаньні 'шчэ разок.

Прабягаюць вёрсты, прабягаюць скора.
Зьніклі за гарамі хутары...
А на заўтра рана, як прыеду ў горад,
Зазьвініць акордам стальны рытм.

За вокнамі вечар, за вокнамі восень.
На дарозе дрэмле жоўты ліст.
У галаве дрымота, на душы так лёгка,
Роўна б'ецца сэрца, як калісь.

Стукаюць калёсы, скрыгаюць аб рэйкі.
Мільганулі й зьніклі агенькі.
Месяц, як начлежнік, з хмарамі жартуе...
Зоры ў паднябесьсі ткуць вянкі.

Завіліся думкі, завіліся стужкай.
Словы, як брыльянты, зіхацяць.
Нікне у туманах месячная просінь...
Хочацца заплакаць, запяяць.

І чаму так лёгка, і чаму так сумна...
Ногі не паколе больш асьцё.
Дык ня плач, матуля! На шляхох ня згіну
Можа, шчасьце ўбачу, сьвет, жыцьцё!

За вакном цямнее. Патухаюць зоры.
Месяц ў падарожжы дзесьці зьнік.
І зьвіняць акорды з-пад калёс вагону—
Мчыцца, як шалёны, ў даль цягнік.

За хвілінай хвіля цягнецца гадамі,
І, здаецца, вечна будзе так.
Скрыгаюць калёсы, стукаюць аб рэйкі,
У грудзях аддаецца мерны такт.

Пабялела поле малаком туману...
На усходзе неба, як агонь.
Вось ён, доўгаждáны... Ну, бывай, матуля
Заіржаў ў прасторы стальны конь.

Галоўлітбел № 25251. ... Тыраж 15.000

# Акраец хлеба

**ЛЯВОН ПЯТРОЎСКІ**

— Добры дзень у хату!

— Дзень добры, — адказаў гаспадар хаты, цэдзячы праз зубы, як бы не жадаючы адказваць, і паглядзеў коса на таго, хто прышоў. А той ціханька стаяў каля печы і агляда ўся па баках, як бы спадзяваўся, што вось - вось нехта выскачыць з кутка і пачне біць яго.

Гэты чалавек быў высокі, худы, з невялічкай бародкай-казялком і чорнымі, таксама невялічкімі, вусікамі. Яму было гадоў пад сорак, а твар яго ўжо быў досыць густа ўбраны ў маршчыны, вочы ўпалыя, у якіх праз каламутнасьць старасьці бліпчэў яшчэ аганёк маладога жыцьця. Але ён ужо патухаў; пра гэта сьведчыў яго няцьвёрды зірк.

Яго звалі Рыгорам.

Гаспадар яшчэ раз агледзеў Рыгора сваімі шустрымі, маленькімі, хітрымі вочкамі і сеў на ложак, які затрашчаў, хоць быў і зроблены з моцнага дубу. (Гаспадар ня мала важыў). Гэта грузнае цела было ўбрана ў гарнітур, які, відаць, быў пашыты з матэрыі свайго вырабу і к таму досыць даўно, бо цяжка было разабраць, якога колеру гарнітур быў новы, а цяпер ён меў рыжы колер, з прымесьсю гразі, у якой былі полы і рукавы, ды сала, якім зашмальцаваны былі ўсе грудзі. На галаве гаспадара была шапка ня новага гатунку: без казырка і мела досыць вялікія дзіркі, праз якія былі відаць космы ніто рыжых, ніто чорных валасоў, якія з год ці больш ня бачылі нажніц. І ўсё гэта разам з тварам, таксама аброслым валасамі, надавала яму выгляд зубра. І яго мо' за гэта падабенства, ці за што іншае, але ў вёсцы называлі «зубрам» і толькі ў вочы велічалі па прозьвішчы—Стрыж.

Стрыж больш не глядзеў на Рыгора, а пачаў аглядаць сваю хату, як бы хвалячыся перад Рыгорам: «Вось, палядзі кольк і ў мяне дабра!» І праўда, хата Стрыжа была заста ўлена рознымі рэчамі: каля парогу стаяў ложак з пяцьма падушкамі —мусіць, ім уладала Стрыжава дачка; недалёка ад ложку, каля сьцяны, стаяла шафа, а на сьцяне, каля шафы, вісела адзежа—мусіць, ня стоўпілася ў шафу. Далей, каля акна, стаяў стол, засланы новым абрусом; па стале ляжала булка хлеба і каля яе невялічкі акраец—мо' фунты чатыры. Нарэшце Стрыж перавёў вочы ў другі бок, дзе стаяў жончын ложак, а каля яго, на падлозе—самавар, некалькі гаршкоў, патэльня, імбрычак і іншыя рэчы. Відаць было, што ўсё гэта нядаўна было ўнесена ў хату, бо некаторыя рэчы былі зьвязаны між сабой і паабкручваны сенам. На астатак зірк Стрыжа ўпаў на сьцяну, якая была ўся завешана абразамі рознага фармату, і чужому чалавеку, які першы раз глядзіць на іх, яны як бы самі гавораць: «Нашы гаспадары і за нас часам хаваюцца!»

Рыгор ня вытрымаў, не дачакаўся, калі Стрыж папытае ў яго, чаго ён прышоў, а пачаў першы:

— Каб вы ведалі, што, дзядзька Стрыж, я прышоў да вас, каб дастаць...

Рыгор запяўся, пачырванеў, як бы яму сорамна было за нешта, але ён сабраўся з духам і кончыў:

— Трохі хлеба!

Рыгор ведаў, што апошняя надзея дастаць хлеба—толькі тут, але ведаў Рыгор і тое, як соладка дастаецца хлеб тут...

Стрыж трохі падумаў і прагаварыў, як бы сам да сябе:

— Дораг цяпер хлеб.

А, трохі пачакаўшы, дадаў:

— Вунь паглядзі!

Стрыж паказаў пальцам на ўвесь той збор рэчаў, што каля жончынага ложку.

— За гэтую ўсю злыбеду я аддаў дзесяць фунтаў хлеба!

Рыгор хацеў плюнуць ды ўцячы з Стрыжавай хаты, каб ня чуць яго голасу. Рыгор дужа ня любіў, як пачне Стрыж хваліцца, што дзе за бесцань купіў. У людзей такіх, як ён, Рыгор, галодных... Але ўспомніў: «жонка... дзеці... і ён — усе галодныя». І думка Рыгора больш за ўсё застанавілася на дзецях. Яму ўспомнілася, як яны абступілі яго, як ён выходзіў з хаты, і такім ціхім, пісклівакволым голасам прасілі: «Тата, есьці!» І для іх, толькі для іх Рыгор стаяў і чакаў, што скажа Стрыж.

Бо гэта было ў галодныя часы вайны.

А Стрыж усьміхнуўся, падышоў да стала, узяў у рукі акраец хлеба, пагля-дзеў на яго, панюхаў і, нарэшце адламаўшы кавалачак, пакаштаваў, як бы ніколі ня еў свайго хлеба: «Добры хлеб!» —прагаварыў Стрыж як бы сам да сябе і, павысіўшы голас, зьвярнуўся да Рыгора.

— Вось, браце, што: у мяне няма касцоў, а ты, я бачыў, добра косіш, дык ты мне цакосіш, а я табе за гэта дам гэты акраец. Хлеб добры, ды яго і шмат тут: усёй тваёй сям'і хопіць, за дзень не зьясьцё.

А трохі пачакаўшы Стрыж яшчэ расказаў—«Дарог хлеб; а можа жонка твая калі небудзь адажне? У вас сям'я, а мы вось утраіх, рабіць няма каму.

Рыгор ня мог вытрымаць. Ён думаў падскочыць да Стрыжа, схапіць гэты акраец хлеба з рук і заткнуць яму горла, нібы баючыся, каб Стрыж не загадаў прысьці ўсёй сям'і Рыгора адрабляць за гэты акраец... Але ўспомніў: «дзеці!!!» З гэтымі думкамі Рыгор падыйшоў да Стрыжа, узяў у яго з рук акраец хлеба і, не сказаўшы ні слова, вышаў на двор.



Паходная майстарня для праўкі машын у вёсцы

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Падрукоў 15.000

# Айцец Дзімітры*)

## З. БЯДУЛЯ

Крушынскі адчыніў вароты, узяў каня пад аброць і павольна павёў праз браму на дзядзінец.

З глыбіні двара пачуўся брэх сабакі.

Мэляпхолічны, працяглы брэх выклікаў у Крушынскага настрой да глыбокадумных разважаньняў, да ціхай спакоры перад усім на сьвеце.

— І трэба ведаць—гаўканьне папоўскай сабакі мне падабаецца.

Звон ланцуга (сабака быў навязаны) раздаўся разам з стукатам дзьвярэй.

На высокім ганку паказалася фігура айца Дзімітрыя.

— Добры вечар, бацюшка!—крыкнуў яму здалёку Крушынскі.

— Вечар добры! Пан Крушынскі?

— Той самы!

— Прашу, прашу! Будзьце ласкавы! Нечаканы госьць...

Крушынскі зачыніў вароты. Пайшоў за айцом Дзімітрыям у памяшканьне.

Айцец Дзімітры—нявысокага росту, досыць шырокі ў плячох, але ня тоўсты. Рэдкія, рыжаватыя валасы растуць на твары паасобнымі кусткамі, злучанымі між сабою ў адну бараду лёгкім сьветлаватым пушком. Пад ніжняй губою зусім няма валасоў; бялее чыстае, нібы выпаленае, лапікла. Гэта надае яму малажавы выгляд. Айцу Дзімітрыю гадоў пад сорак, а здаецца маладзейшым на гадоў дзесяць. Невялікія сьветла-шэрыя вочы заўсёды ўсьміхаюцца. Нібы духаўнік вечна чымсьці ўзрадаваны і ня можа стрымаць сваёй радасьці. Твар гладкі, бяз ніводнай зморшчыны, але на лобе прарыта адна глыбокая баразна, якая ніколі ня зыходзіць і падобна да шраму. Чырвоныя тонкія губы і даўгаваты нос з чулымі ружаватымі ноздрамі надаюць твару выраз сьмеласьці, упартасьці, зьменчывасьці, захаванага капрызу. Голас у айца Дзімітрыя мяккі з ноткамі просьбы і прабачэньня. Але гэта бывае тады, калі ён знаходзіцца ў памераным настроі, у роўнавазе пачуцьцяў. Калі часам яго выводзяць з цярплівасьці, калі ён злуецца, калі ён бывае чым колечы ўзварушаны, —тады голас яго мяняецца: ад мэталёвабасавых пераліваў пераскоквае да альтавых выкрыкаў і жаночага піску.

У гэткія хвіліны здаецца, што айцец Дзімітры практыкуецца на розныя галасы, шукае свайго голасу, сваіх манераў—і знаходзіць ня можа. Яны загублены ў пустэчах жыцьця і разьвеяны, нібы пыл пад ветрам.

Айцец Дзімітры быў да рэволюцыі настаўнікам у вясковай школе. Пасьля рэволюцыі, калі многія з выхаванцаў духоўнай сэмінарыі кідалі духоўную годнасьць і пайшлі зусім новымі шляхамі, цяперашні поп—былы настаўнік—«здаў экзамэнт па папа» (так і цяпер сяляне гавораць) і яго назначылі ў гэту парахвію.

Чаму ён так зрабіў—і цяпер ніхто добра ня ведае.

Адны кажуць, што рэволюцыя на яго зрабіла такое адмоўнае ўражаньне—яе жорсткасьці і бязьлітаснасьць накіравала яго да бога.

Другія тлумачаць, што ён проста захацеў мець спакойнае жыцьцё духоўніка.

Трэція гавораць, што ён быў у часы рэволюцыі афіцэрам у белагвардзейцаў і, каб захаваць сваё мінулае, апрануў расу духоўніка і запусьціў валасы.

Айцец Дзімітры і Язэп Крушынскі расьселіся пры стале. Пакой асьвятляла невялікая газавая лямпа.

— З чым бог нясе?—запытаўся айцец

*) Заповесьці „Язэп Крушынскі“, якая друкуецца ў часопісе „Узвышша“

Дзімітры лагодным голасам з адценьнем просьбы ў тоне.

— Дзівіцеся, айцец, што каталік да праваслаўнага духоўніка прыблукаўся?—запытаўся ў сваю чаргу Крушынскі.

Вясёлыя вочы папа пранікліва зірнулі на Крушынскага і ён з пакорай і сумам адказаў:

— Эвангельле для ўсіх хрысьцян аднолькавае. Хрыстос адзін і той самы і для каталікоў і для праваслаўных.

— Нудна зрабілася, бацюшка, і я вось прыехаў пагутарыць з вамі. Чалавека жывога няма ў ваколіцы.

— І добра зрабілі, і добра зрабілі, што прыехалі. Я вельмі рад!

Поп кідаў падазроныя погляды ў бок гасьця.

— А дзе матушка?

— Яна сьпіць пасьля абеду. Прастудзілася нешта.

— І добра зрабіла!—ледзь не прагаварыў Крушынскі ў ранейшы тон папа, а замест гэтага сказаў з пашкадаваньнем:

— О-о-о, бедная. Трэба малінай напаіць і ўсё пройдзе. Як рукой зьніме!

Крушынскі быў здаволены, што «матушка» ня прыме ўдзелу ў іхняй гутарцы. Дзяцей у папа няма—ня будзе лішніх сьведак.

— Ну й сьняжок. Ну й бела ўсюды. Аж воку люба!—пачаў Крушынскі з пагоды, ня ведаючы з чаго пачаць.

— Ніякі бялільшчык так ня выбеліць, ніякі маляр не намалюе,—дадаў айцец Дзімітры.

Ён любіў устаўляць у гутарку слаўцы і пагаворкі з эвангельля. Ужываў гэта нават залішне. Нібы хацеў такім чынам моцна ахварбавацца пад колер духоўніка, каб выглядала, што ён «пастырам божым» ледзь не ад нараджэньня.

Крушынскі аглядаў пакой. Было надзвычайна цёпла. Мухі круціліся і гудзелі над сталом. Адна муха, буйная, сіняга колеру села айцу на ўспацелы нос. Айцец настаражыўся і застыў на месцы. Хітраватая ўсьмешка заяскравіла на твары і ён левай рукой шмаргануў па носе. Муха ўзьнялася над галавою айца і гарэзьліва села на лоб.

— Так, бацюшка.—Кажа Крушынскі, нібы вядзе працяг доўгай ранейшай гутаркі.—Хутка нараджэньне Хрыста па каталіцкаму, а па праваслаўнаму будзе на два тыдні пазьней. Чаму-ж гэта для праваслаўных Хрыстос нарадзіўся ў адзін час, а для каталікоў—у другі?

— Каталікі памыляюцца!—з упэўненасьцю сказаў айцец Дзімітры.

— Хто там разьбярэ, дзе памылка, але ў сельсавеце лішняя праца: два разы рыхтаваць антырэлігійную пропаганду.

— А вы ім памагаеце, Язэп Сымонавіч, біць нас? Вы памагаеце антыхрыстам?—усхваляваўся айцец Дзімітры.

Муха спаўзла з лобу на нос айца.

— Не... Я проста хачу з вамі, бацюшка, абмеркаваць гэту справу. Камунізм мне здаецца, бацюшка, новай рэлігіяй, якая мае з хрысьціянствам шмат супольнага.

У айца Дзімітрыя твар запалаў ад натхненьня.

— Хрыстос сказаў: «бо многія прыдуць пад імем маім, кажучы, што гэта я». Яшчэ ён сказаў: «Надыйдуць дні, у якія з таго, што вы тут бачыце, не застанецца каменя на камені: усё будзе зьнішчана». У другім месцы напісана: «Паўстане народ на народ і царства на царства».

Айцец Дзімітры нібы з кнігі чытаў.

Муха павандравала па носе і апусьцілася на верхнюю пульхлую і чырвоную губу айца Дзімітрыя. Яна грэбла яго па губе. Айцец моршчыўся, але махнуў рукой у ніз (усё роўна ня зловіш).

— Так, шмат агульнага,—казаў Крушынскі.—Напрыклад, Хрыстос бараніў бедных. Тое самае і камуністыя робяць.

— Не да іх Хрыстос сказаў: «Я зраблю вас паляўнічымі над людзьмі»—камуністыя—нашы ворагі.

Муха скраблася лапкамі і нібы моцна

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Падпісак[?] 15.000

задумвалася над словамі айца, седзячы на яго губе.

— Але Хрыстос сказаў таксама: «любі ворагаў сваіх»—прагаварыў Крушынскі ў тон папа, хітра жмурыўшы правае вока.

— Адыйдзі ад мяне, сатана! Вашы камуністыя—фарысеі і кніжнікі,—залаваўся айцец Дзімітры.—Чаго вам ад мяне трэба, Язэп Сымонавіч?

— Я хачу вам дабра і толькі дабра, бацюшка. Ведаеце, што духоўнікам з кожным годам робіцца цяжэй жыць. Перастаюць хадзіць у божыя дамы. Народ стаў зусім іншым.

— Рахіль плача аб дзецях сваіх...—марматнуў айцец Дзімітры жалабным тонам.

— Адзін плач тут не паможа, бацюшка, трэба нешта больш разумнае рабіць. І вам, бацюшка, жыць трэба. А як усё ў вас забяруць, дык з чаго жыць будзеце?

— Зірнеце на птушак нябесных: яны ня сеюць, ня жнуць...—на сьпеўны лад зацягнуў айцец Дзімітры.

— Ну і капаюцца яны ў конскім гноі, корму сабе шукаючы,—засьмяяўся Крушынскі.

— Навошта вы мне ўсё гэта гаворыце, Язэп Сымонавіч? Я прасіў у вас рыбы, а вы падсоўваеце мне зьмяю. Чаго вы ад мяне дабіцца хочаце?

Пры гэтых словах муха ўсадзіла айцу востра жагло ў самую мякаць верхняй губы. Ён злосна ляснуў сябе рукою ў губы. Аж сьлёзы пакаціліся з вачэй.

Муха выскачыла цэленькая спаміж яго растапыраных пальцаў і ўпарта загудзела над яго вухам.

— Я хачу толькі аднаго, каб і вам і ўсяе вашай парахвіі добра жылося... Гэта залежыць ад вас, бацюшка.

— Ад мяне?!—зьдзівіўся айцец Дзімітры,—не ад бога, госпада нашага, а ад мяне?!

— Ад вас, бацюшка, вядома, і пры божай дапамозе,—спакойна гаварыў Крушынскі.—Ад вашай спакоры...

— І Хрыстос гаварыў аб спакоры. Калі паб'юць цябе ў адну шчаку—падстаў дру...

Айцец не дагаварыў. Муха моцна ўкусіла яго за вуха. Ён ляснуў рукою па вуху і... труп божай жывёлінкі пакаціўся і завіс у жоўтых хмызьнячкох папоўскай барады. Яна загінула ў змаганьні за свой дабрабыт.

— Айцец! Гэта-ж вы супроць сваіх сьвятых слоў зрабілі?

Чаму-ж не падставілі пад укусы мухі другое вуха?

— Я... я...—здэтанаваўся поп,—моцна, падла, кусаецца...

— Нічога айцец. Ваш учынак правільны. Другую шчаку падстаўляюць толькі тады, калі моцны б'ець... Перад моцным, айцец, дапамагае толькі спакора. Аб спакоры і прашу вас...

— Усякі просячы атрымае, а шукаючы знаходзіць,—супакоіўся поп.

— Калі так, дык вельмі добра будзе! Мы з вамі, бацюшка, добрую справу наладзім. Я казаў, што новая рэлігія надыходзіць. Зёрны ва ўсіх рэлігіях адны і тыя самыя. Толькі каласы трохі інакш выглядаюць. Той самы гарох, але струкі інакшыя. Трэба ўмець лушчыць гэтыя новыя струкі, каб знаходзіць стары гарох. Для новай рэлігіі і новыя духоўнікі патрэбны. Старыя не гадзяцца. Вы нядаўна толькі папом зрабіліся. Вы яшчэ не ўкаранелы поп. Рабецеся чырвоным папом! Розьніца толькі ў расах, а нутро тое самае.

Пот капаў з твару Крушынскага на кажушок.

— Юда Іскарыёт!—крыкнуў на яго злосна айцец Дзімітры.

Ад хваляваньня ён скуб рэдкую бародку, пачаў хадзіць туды і сюды па пакоі, махаў рукамі, ноздры ў яго разьдзьмухваліся. Але ў вочах заставалася ранейшая ўсьмешка...

Муха скацілася з барады на жывот айца, а з жывата—на падлогу.

Крушынскі спакойна за ім назіраў.

Айцец Дзімітры зноў сеў.

Ён пачаў просячым голасам:

— Калі распускаюцца кветкі, ведаеце, самі, што лета блізка. Кветкі вашых слоў, Язэп Сымонавіч, распушчаны. Але якая пагода будзе ад іх—ня ведаю. Свайго духоўнага сану ня кіну.

— І вельмі разумна зробіце. Яшчэ лепш зробіце, калі новыя ідэі будзеце праводзіць у казаньнях з царкоўнага амбону. Тыя самыя ідэі, аб якіх калісьці Хрыстос гаварыў...

Пот ліўся з твару Крушынскага маленькімі ручаінкамі. Ён выглядаў, як заплаканы.

— Камуністыя ня вераць у Хрыста...

— Я-ж вам, бацюшка, казаў аб гароху і струкох: гарох—той самы. Нутро тое самае. Толькі струкі інакшыя.

— Вось так і Вэльзавуль Хрыста спакушаў!—рэзюмаваў словы Крушынскага айцец Дзімітры.

— Я зусім не спакушаю, а жыцьцёвую практыку тлумачу. Камень на хлеб цяпер не пераробіце. Ваду ў віно не перавернеце, бацюшка. Вы застанецеся пры каменьнях і вадзе.

Эвангэлічнае параўнаньне зрабіла ўражаньне на папа.

— Дык што-ж вы ад мяне хочаце?

— Спакоры, хрысьцянскай спакоры і пашаны да ўлады. Той моцны, бацюшка, хто не ламаецца, а толькі гнецца...

Крушынскі пры гэтым таргануў плячыма. Сьпіна была мокрая ад поту.

— Я шаную ўладу, бо кожная ўлада ад бога. Я спакорлівы, бо так у сьвятым пісьме загадана.

— Трэба яшчэ камень на хлеб перарабіць...

Айцец Дзімітры ўсьміхнуўся ня толькі вачыма, а нават пад абскубанай барадкай зайгралі зморшчынкі сьмеху.

Крушынскі расказваў, што ў сельсавеце сяляне дамагаліся, каб забраць пад школу дом бацюшкі, але ён адгаварваў.

Да позьняй ночы сядзеў Крушынскі ў айца Дзімітрыя. Яшчэ многімі тэкстамі з эвангельля аздабляў поп сваю гутарку.

— Ой, як вы спацелі, Язэп Сымонавіч, зьніміце кажушок!—сказаў поп тады, калі госьць выбіраўся дамоў.

— Не, трэба ехаць!—адказаў Крушынскі і выцер пот рукавом.

Пасьля гэтага візыту поп у казаньнях часта ўспамінаў камунізм, прыводзіў прыклады з эвангельля, з старых часоў хрысьціянства.

Скрыні з таварамі Крушынскага часта прывозіліся на сховы да папа.

Так Крушынскі кончыў з антырэлігійнай справай.

Пасьля гэтага Крушынскі завёў з айцом Дзімітрыям вялікую дружбу.

Пра айца распаўсюджваліся чуткі, нібы ён хоча зусім адмовіцца ад духоўнага сана.

Крушынскі стараўся рознымі спосабамі зьняпраўдзіць гэтыя чуткі. Ён, пэўна не парадзіў-бы айцу Дзімітрыю гэта рабіць, бо ўсё роўна на парахвію прыслалі-б іншага папа.

— Айцец Дзімітры ў сане папа вельмі добра працуе на карысьць рэволюцыі,—гаварыў часта ў сельсавеце Язэп Крушынскі. — Ён павольна і грунтоўна падрыхтоўвае парахвіян да бязбожніцтва. Ён скіне з сябе расу толькі тады, калі новы поп, які будзе прысланы сюды рознымі Мэльхісэдэкамі, ужо ніякага ўплыву не патраціць зрабіць на сялян.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. ВДВ. Надрукав. 15.000

# Перажон

**МІКОЛА ВАРАНЕЦКІ**

— Што ты, кабета, робіш! Пабойся ты бога і пасаромейся людзей... Ці-ж гэта лад? Хай то ўжо пержала на снапоў два спачатку загону, а то праз увесь шнурок гоніць баразну майго жыта; а здаецца, і з хвамілії не абы якой, уся радня нават чужой пярынкі не заняла, а ты гэткая ўдалася. Чуеш, ці не, што я табе кажу!— засарамаціўшы крыху Тэклю, яшчэ больш узьнімае голас Параска.—Ня жні майго жыта, каб цябе зжала і скруціла, бо калі заяўлю пайду прадсялдаталю ў славет, то будзеш ведаць, як мець нялюдзкую зайздрасьць!

— Пайдзі толькі заяві,—пагражае Тэкля,—дык і сваім бяльматам (гэта на дзяцей) рада ня будзеш. Нашлася камісарка... яе, кажа, жыта жну. Хай бы гаспадар твой ня быў такі лопацень: у восень не залазіў у наш загон, не аджывала-б.

— Гэта-ж твой гаспадар лопацень! От пэсьцера налопаў і ты ім прытулку ніяк не дасі... Чужыя дзеці, як дзеці, а твае на зладзеяў падобны: то ходзяць у чужыя хаты—хлеб у малых адбіраюць, то каля млына ў чужых коняй з хвастоў рвуць валасьню. Я яшчэ і пра распусту тваіх дзяцей прадсялдаталю заяўлю, тагды ты паглядзіш, які смак займацца з Параскаю, будзе табе перажон, будзе і ўсё...

— От смуродаўка гэтая! А якія-ж твае дзеці, што ты маеш да маіх дзяцей, каб ты сваіх не аглядала.

— От паглядзім ужо тагды, хто каго будзе аглядаць, прыдзе прадсялдаталь— адразу заштрафуюць.

І Параска пайшла з поля ў сельсавет.

— Ня йдзі, каб ты ногі паламала, ўсёроўна нічога ня будзе.

— Гэта ўжо тады будзем бачыць,— страшыць Параска.

— Вярніся, прадсядацеля дома няма,— нэрвуецца Тэкля,—некуды паехаў.

Але Параска не зважала на Тэклiну спагаду-папярэджаньне і шпаркімі крокамі пайшла да сельсавету.

**
*

У сельсавеце ад цыгар гусьціўся дым, топячы ў сабе словы сялян пра падатак, страхоўку, ды пра ўсе жыцьцёвыя клапоты У руках сэкратара папісквала «арандо», а старшыня, як чалавек больш у чым сьвядомы, даваў сялянам усялякія тлумачэньні. Раптам расчыняюцца дзьверы і з растрэпанымі валасамі, з хусткай на плячох убягае Параска.

— Што, цётка, скажаце?—паважна зьвярнуўся старшыня да Парасکі.

— Мой галубчык, мой прадсалдаталька, прышла з горкай крыўдаю.

— Кажэце!

— Перажон!

— Што за перажон?

— Апанасавых Тэкля маё жыта жне!

— Чаму-ж яна жне?

— Яе дзеці зладзеі!

— Дык што да гэтага мае?

— Нічога, мой саколік. Летась нашыя гаспадары...

— Чые гэта гаспадары?

— Мой і Тэклін.

—Ну, дык што яны рабілі?

— Аралі.

— А больш?

— Пазабівалі.

— Што? Каго?

— Палькі, каб знаць, колькі каму прыходзіцца поля; цяпер тых паляк няма, дык Тэкля мае жыта жне.

— Дык вось што, цётка, пайдзі скажы Тэклі, каб яна больш жыта твайго ня жала.

— Ой, саколік я не пайду адна, яна-ж мяне не паслухае, яна такая гадаўка,

што яе і дзеці пустыя, і сьвіньні чужыя агароды стоўкаюць.

— Ціха, цётка, будзеш там гаварыць сваю крыўду, а тут ня крычы.

— Я ня крычу, мой сакол<sup></sup>ік, а што яе дзеці і яна сама пустыя, дык я прысягну сваёю галавою. Летась яна таксама ў мяне...

— Дык ціха-ж, цётка, зараз пойдзем на поле.

— Ой, прадсялдатэлька, хадзем, бо яна-ж там мой загончык уходзіць.

— Зараз.

— Вінцусь!—зьвярнуўся старшыня да сэкратара,—я пайду там іх паміру, а ты тут кончыш падшываць дырэктывы з Рыку. Дзе вы жняцё?

— А тут, недалёка, за засаўкамі ў Дзямідаве.

***

Прышлі.

— Ну, што вы, цётка Тэкля, крыўдзіце сваю суседку,—прабурчэў старшыня.

— Мой галубчык, хай мяне бог пакрыўдзіць, хай я не застану дома сваіх дзетак, калі ад мяне ёй ёсьць крыўда. Мо' адзін каласок заняла яе жыта, дык...

— Ня слухайце, прадсялдатэлька, што ўсяго адзін каласок, а ты што, сучка, брэшаш, што адзін каласок! Каб табе гэтулькі скул у горла, колькі ты пажала маіх каласкоў, дык ніводнага дня ня выжыла-б... Гадасьць ты, зайздрасьць ты!

— А ты лепшая? Хто казаў, што Анэльчыха малака многа надойвае? Хто чуць ня плакаў, як у Гаўрылы бульба вялікая парасла, а ў цябе не? Дык гэта ня зайздрасьць?

— Ну, ціха,—умяшаўся старшыня,—давайце памерым, колькі Тэкля пеpажала, тады будзем нешта гаварыць.

Памералі.

— Ну, вось бачыце, цётка Параска,—тлумачыць старшыня,—Тэкля пеpажала ў чатырох мясцох удаўжкі па аршыне і ўшыркі па два сантымэтры, разам паўснапа жыта. А ці варт было за гэта падымаць вэрала на ўсё поле? Ці-ж вы ня сышліся-б самі? Ну, дык аддай, Тэкля, ёй гэтага паўснапа, і больш не сварэцеся! А я пайду ўжо.

— А які ёй будзе штраф за пеpажон?—не сьцярпела Параска.

— Ніякі,—паважна адказаў старшыня.

— Ніякі?

— Ніякі. За гэтакі пеpажон нельга накладаць штрафу. Яна табе нават гэтага паўснапа аддала.

— Як гэта сказаць!—узьлемантавалася Параска—яе дзеці не такія, як іншыя, яе і сьвіньні гадкія, стоўкаюць усе агароды, і сама яна ня лепшая.

— Дык што да гэтага мае?

— Хай сабе да чаго хоча яно мае ці ня мае, а я ўсё-роўна не падарую, я дапну і ў Менск, а не падарую.

Старшыня падумаў і пашоў.

Параска з Тэкляю ізноў пачалі жаць, упікаючы адна адну дзецьмі, сьвіньнямі, агародамі, коньмі каля млына...

М. Пясочнае.

# Разьвітаньне

### Сяргей Фамін

На камінку агні адпалалі
Вечар казкі асеньнія сьніць...
Ну, бывай! Да вясновых прагалін,
Да спатканьня ў зялёныя дні.
Прыйдзеш ты, калі песьням пад холад
Ня скіголіць журбою імжы,
Калі ўпершы у родныя сёлы
Прыляцяць журавы і стрыжы.

Будуць клікаць цябе аграномам,
Ў вечар ў хату зьбярэш з паўсяла,
Каб на пустках ад плёну салома
Да зямлі галавой прылягла.
Ну—бывай... Вось хурманка ля школы...
Па цябе.. А ў сэрцы—жаль...
Там, на пустцы здратаванай, голай
Разгарэўся асеньні пажар.

Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Падрукоў 15.000

# Дайце вёсцы добрае кіно

СЯРГЕЙ ВЕРАСОК—

У сувязі з культурнай рэволюцыяй на на кіно-фільмы. Цяпер бяз малага ў кожвёсцы наглядаецца асабліва вялікі попыт ным раёне ёсьць кіно-перасоўкі, якія час ад часу наведваюць вёскі. Кожнаму вядома, з якім захапленьнем сяляне глядзяць «жывыя карціны»; паглядзець іх прыходзіць уся вёска, нават старыя, якія мала калі злазяць з печы.

Але дрэнна тое, што вёска кіно бачыць надта рэдка: раз або два разы за цэлы год. Патрэбна, каб не радзей як праз два месяцы кожную вёску наведвала кіноперасоўка. Побач з гэтым неабходна адзначыць, што патрэбных для вёскі фільмаў яшчэ зусім няма, калі ня браць на ўвагу адну-дзьве фільмы, якія выпушчаны на тэрыторыі СССР. У вёску зазвычай дасылаюць розную халтуру: фільмы, дзе дзейнічаюць расьпешчаныя замежныя паны, дзе на кожным кроку адбываюцца разбэшчаныя абдымкі, пацалункі і інш. З такіх фільмаў кіно-халтуры можна азначыць: «Поспешная свадьба», «Поцелуй Мэри», «Любовь в 16 лет» і іншыя; усе гэтыя фільмы выдавецтва «Совкино». Вельмі было-б пажадана, каб такія рэчы зусім не паказваліся, бо яны, апроч шкоды, вясковаму насельніцтву нічога не даюць.

Кіно ў сучасны момант здолее шмат чаго зрабіць для асьветы вёскі; яно дасьць, часамі, больш карысьці, чым якая рублёвая кніжка. Цяпер сумнымі пратакольнымі чыткамі лекцыяў таксама ня можна дасягнуць таго, што дае вёсцы добрае кіно.

Трэба розным кіно-выдавецтвам больш чула прыслухацца да просьбы вёскі, да яе патрэбаў, і толькі тады, адпаведна попыту, выдаваць кіно-фільм. Патрэбна даць такі кіно-фільм, які-б накіроўваў сялянства да змаганьня за новы быт, за новае жыцьцё, да змаганьня з усім старым, цёмным, да палепшаньня свае гаспадаркі, да лепшай апрацоўкі свае зямлі і гэтак далей. Неабходна даць простае, зразумелае ў сваім зьмесьце кіно, якое-б расказала селяніну пра выгаду колектыўнае апрацоўкі зямлі, пра асушку балотаў і г. д. Трэба селяніну паказаць, як будуецца наша соцыялістычная гаспадарка, як апрацоўваецца зямля ў замежных краінах, як працуюць рабочыя на фабрыках і заводах, як новы быт зьмяньвае да лепшага адносіны між людзьмі, як будуецца новая сям'я і г. д.

Таксама патрэбна даць добрую, здаровую камэдыю, драму, а не якую-небудзь пікчэмнасьць з пацалункамі.

Кіно-выдавецтвы не павінны гнацца за экономічнымі выгадамі з таго ці іншага фільму, а трэба, каб яны зварочвалі асаблівую ўвагу на якасны і карысны бок яе. Трэба, каб іншыя селькоры выказваліся па гэтым пытаньні, а «Белдзяржкіно» розныя гэтыя заўвагі прыняло да ведама і карысталася імі пры стварэньні кіно-фільмаў.

Вёс Каласоўшчына,
Капыльскі раён

# Пра літаратуру Паўднёвай Амэрыкі

З. С.

Літаратура Паўднёвай Амэрыкі — Гішпанскіх колёній—існуе некалькі сот гадоў. Першыя гады яна ня мела гэтакай яскравай самастойнасьці, як цяпер. Яна была ў поўнай залежнасьці ад гішпанскай літаратуры і зьяўлялася адным з праваднікоў гішпанскай культуры ў колёніяльныя краіны.

Як па спосабах сваёй творчасьці, так і па тэмах сваіх твораў поэты і пісьменьнікі таго часу былі ў поўнай залежнасьці ад літаратуры Гішпаніі. Толькі ў канцы 18—19 стагодзьдзяў, калі ў колёніях пачынаецца змаганьне за сваё вызваленьне, літаратура па зьмесьце прымае зусім іншую афарбоўку У творах прасочваецца ўся нянавісьць да сваіх прыгнятацеляў-гішпанцаў. У творах Хуан Варэлы, Хосэ Ольмэдо, Бельо—шмат гэроікі, шмат нацыянальнага пафосу—закліку да вызваленьня.

Калі Паўднёвая Амэрыка вызвалілася з-пад ярма Гішпаніі—літаратура адмірае, яе замяняе політыка.

Паўднёвыя амэрыканскія народы заняліся політычным будаўніцтвам сваёй краіны. Утварэньне цэлага шэрагу рэспублік, войны паміж імі, змаганьне партый у іх—усё гэта заняло культурныя сілы і адарвала іх увагу ад літаратуры.

Толькі ўжо ў канцы 19-га стагодзьдзя, калі грамадзкае жыцьцё пачынае ісьці больш нормальна—пачынаецца культурнае адраджэньне краін Паўднёвай Амэрыкі.

Першыя крокі разьвіцьця літаратуры былі не самастойнымі, а зьявіліся пераносам на глебу новага сьвету літаратурных плыняй і настрояў з далёкае Эўропы.

У Аргэнтыне пастухі-жывёлаводы мелі сваю народную поэзію. Гэта поэзія была арыгінальная і толькі потым, калі поэты адракліся ад «чужыхформ і настрояў», —тады гэта народная поэзія зьявілася крыніцай для творчасьці далейшых пісьменьнікаў.

У сучаснай паўднёва-амэрыканскай літаратуры існуюць дзьве плыні. Адна амэрыканская, зьвязаная з народнай поэзіяй, так званая крэольская літаратура, і другая француская літаратура, якая пераймае ўсе новыя кірункі эўрапейскай, галоўным чынам, францускай літаратуры.

Крэольская літаратура высунула ўжо некалькі сваіх пісьменьнікаў, творчасьць якіх мае свае мастацкія каштоўнасьці. Сярод гэтых пісьменьнікаў трэба адзначыць пісьменьнікаў Васта, Бэніто Лінча, Угартэ, Лугонэ і інш.

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Бярозкіну.—Апавяданьне сваё можаце прыслаць у рэдакцыю «Чырвонага Сейбіту».

Ц. Бірулькову.—«Між чаротнікаў» друкавацца ня будзе. Вы толькі запісалі сюжэт, а апавяданьня самога не напісалі.

Чарткову.—«Фэльетон» і «Пра лясную дзічку» друкавацца ня будзе. Слаба напісана, да друку не падыходзіць.

Асташонку С.—«На новым месцы» друкавацца ня будзе.

Раманчыку В.—Каб вы сваё апавяданьне апрацавалі лепш, дык яго льга было-б надрукаваць. А то ў вас пачынаецца пра дзяка, а пасьля раптам перайходзіць на папа, а дзяк няма ведама, дзе падзеўся. Мае выгляд карэспондэнцыі.

Жукаўцу.—«Гаўрылаў век» [illegible]кавацца ня будзе. У тых «дробных» зьявах, якія вы апісваеце, вы ня здолелі знайсьці і паказаць таго, што было-б цікава.

М. Ракаву.—Ні вершы, ні апавяданьне друкавацца ня будуць. Усё ня мае ніякае літаратурнае вартасьці. Апроч таго і мова нячыстая: «па лесу», «ідучыя», «направіліcь», «карманы», «па алоце»—усё гэта не беларуская мова.

Філімонаву.—«Выпадак» друкавацца ня будзе з тае прычыны, што [illegible] вельмі слаба напісана. Апроч таго, і мова гэтага апавяданьня, усе звароты яе няжывыя, канцэлярскія, а не літаратурныя. Працуйце над чыстатою мовы.

Адказны рэдактар
ШУКЕВІЧ-ТРАЦЬЦЯКОЎ

Друкарня газ. «Зьвязда», Менск, Савецкая, 63. Галоўліт № 304

Галоўлітбел № 2525